Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 346
Год выд. XXXVII

Красавік
1988

# ПРАМОВА СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

## НА СЬВЯТКАВАНЬНІ 70-Х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Паважаныя госьці й дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады БНР шчыра вітаю Вас зь вялікім беларускім нацыянальным сьвятам — сьвятам аднаўленьня нашай Дзяржаўнасьці.

Семдзесят гадоў ужо мы адзначаем гэтыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка, — абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, як вялікую гістарычную дату. Аднак аб незалежнасьці й сувэрэннасьці нашай дзяржавы мы дасюль толькі марым і змагаемся за зьдзейсьненьне гэтага лятуценьня, цьвёрда пераконаныя, што да гэтага дойдзе ў недалёкай будучыні.

Нашая дзяржава была адноўленая 25 сакавіка 1918 году ў форме Беларускае Народнае Рэспублікі. Народ наш, натхнёны духам свабоды й гуманнасьці, з энтузіязмам браўся за адбудову свайго палітычна-грамадзкага ладу. Але ў Маскве ўсталёўвалася новая бальшавіцкая ўлада бязбожных дыктатараў, фанатычных ненавісьнікаў свабоды, якія наважыліся разбурыць маладую Беларускую Народную Рэспубліку. Ды пераканаўшыся ў непахіснасьці й нязломнасьці волі свабодалюбнага Беларускага Народу, яны прагалошваюць 1 студзеня 1919 году ў Смаленску другую беларускую рэспубліку — БССР, савецкую гора-дзяржаву, якая існуе й да сяньня.

На пачатку існаваньня БССР беларуская інтэлігенцыя ўзялася была за разбудову культуры, школьніцтва й адміністрацыі, але ў часе сталінскага тэрору дзесяткі тысячаў культурнае й палітычнае эліты нашага народу былі выгубленыя за тое, што верна служылі сваёй Бацькаўшчыне. Заміж раўнапраўнасьці моваў усіх народаў Беларусі, гарантаванае законам БНР, усім ім накідаецца акупантава расейская мова, пры дыскрымінацыі й паняверцы мовы беларускай. Заміж забясьпечанага законам БНР дэмакратычнага выбарчага права ўсім грамадзянам, крамлёўскі акупант назначае загадам сваіх «кандыдатаў» на кіруючыя становішчы ў БССР.

Прыйшоў нарэшце час, калі савецкі рэжым, каб палепшыць свой эканамічны стан, змушаны дазволіць крыху праўды аб мінуўшчыне, аб сталінскіх і пасьлясталінскіх злачынствах. Вось-жа цяпер і беларускае грамадзтва падае хоць часткова свой праўдзівы голас, крытыку й пажаданьні. І, як паказваюць матар'ялы савецкага друку, Беларусы на Бацькаўшчыне гавораць аб тым самым, аб чым беларуская эміграцыя гаварыла дзесяцігодзьдзямі: пра страты нашага народу людзьмі й культураю, а таксама пра патрэбу аднаўленьня гістарычнае памяці, умацаваньне нацыянальнае сьведамасьці ды неабходнасьць узгадоўваць маладое пакаленьне Беларусаў у пашане да нацыянальных традыцыяў і гістарычнае спадчычы.

У БССР цяпер вядзецца актыўная абарона беларускае мовы як асновы нацыянальнага існаваньня. У існасьці Беларусы на Бацькаўшчыне й на Чужыне гавораць цяпер пра тое самае: пра патрэбу служэньня Беларускай Нацыянальнай Справе.

Дарагія Суродзічы, сёньня як ніколі дасюль у паваенным часе, ад усіх нас вымагаецца пільнае сачэньне таго, што дзеецца на Беларусі, бо ўвесь сьвет трымае ўвагу на ходзе падзеяў у Савецкім Саюзе ды на курсе разьвіцьця заходня-ўсходніх дачыненьняў, упасобку дачыненьняў амэрыканска-савецкіх. У гэтым інфармацыйным працэсе мы мусім узяць самы актыўны ўдзел. Важным заданьнем застаецца й надалей інфармаваньне палітычных колаў у краёх нашага пасяленьня, а таксама прыязных нам арганізацыяў суседніх зь Беларусяй народаў.

У бягучых падзеях на Бацькаўшчыне мы знаходзім ня толькі аргумэнты для абгрунтоўваньня патрэбы свабоды й незалежнасьці Беларусі, але й маральнае ўзмацненьне сябе самых — пераконлівыя довады, што Беларуская Справа жыве, што нашая дасюлешняя праца ня была дарэмнай, што з нашым Народам і далей лучаць нас тыя самыя ідэалы нацыянальные свабоды.

Рада БНР — гэта спадкаемец Рады І-га Ўсебеларускага Кангрэсу, носьбіт ідэі незалежнасьці, сувэрэннасьці й непадзельнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, гэта запярэчаньне паняволенае й абрэзанае тэрытарыяльна Беларусі ў форме БССР.

Дык вітаю ўсіх Вас, дарагія Сябры й Суродзічы, зь семдзясятымі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка ды жадаю ўсім нам вытрывалась ці ў далейшым шляху да Незалежнае й Непадзельнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

### «РОЗРУХ НА БЕЛАРУСІ»

Пад гэткім загалоўкам лёнданскі часапіс The Economist (17.XII.87) зьмясьціў інфармацыю пра палітычны мітынг у Менску, што адбыўся 1-га лістапада летась, ды пра дамаганьні прадстаўнікоў беларускае інтэлігенцыі, каб былі выяўленыя ўдзельнікі сталінскіх злачынстваў. Паводля «Эканаміста», нефармал «Талака», да якога належаць каля 150 асобаў, гэта адноўленая група, якую паліцыя разагнала ў сьнежні 1986 году. Часапіс мае на ўвазе, відаць, клюб «Спадчына».

Інфармацыю з «Эканаміста» падала выдаваная ў Лёндане польская газэта «Дезеньнік Польскі» (11.I.88).

# ПРЫВІТАНЬНЕ АД ПРЭЗЫДЭНТА РЭЙГАНА

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

March 24, 1988

Warm greetings to Byelorussian Americans and to everyone marking the 70th anniversary of Byelorussian Independence. This observance salutes the determination of the people of Byelorussia to live in freedom and independence. It also pays tribute to the proud and ancient heritage you do so much to perpetuate.

I join you in commemorating the heroism of Byelorussia in the face of war and oppression through the years. The Soviets continue to persecute those who speak in defense of their religion, language, history, culture, and God-given human rights.

Brave and eloquent voices still attest to Byelorussia's unconquerable spirit; I look with you to the day when the people of Byelorussia will again be free to realize their national aspirations.

God bless you, and God bless Byelorussia.

Ronald Reagan

Сардэчныя прывітаньні Беларуса-Амэрыканцам і ўсім, хто адзначае 70-я ўгодкі Беларускае Незалежнасьці! Адзначэньнем гэтых угодкаў ўшаноўваецца наважанасьць народу Беларусі жыць у свабодзе й незалежнасьці. Гэта — таксама ўшанаваньне гордае й старавечнае спадчыны, дзеля захаваньня якое Вы робіце так шмат.

Я далучаюся да Вас у ўшанаваньні гэраізму Беларусі перад абліччам вайны й шматгадовага ўціску. Саветы й надалей перасьледуюць тых, хто выступае ў абароне свае рэлігіі, мовы, гісторыі, культуры й Богам дадзеных правоў чалавека.

Адважныя й красамоўныя галасы ўсё яшчэ сьветчаць пра нязломны дух Беларусі. Я спадзяюся разам з вамі, што прыдзе дзень, калі народ Беларусі зноў будзе свабодны, каб ужыцьцёвіць свае нацыянальныя імкненьні.

Няхай Бог блаславіць і Вас і Беларусь.

**Рональд Рэйган**

*«СЁНЬНЯ Ў СЬВЕЦЕ АДБЫВАЕЦЦА ТЫТАНІЧНАЕ ЗМАГАНЬНЕ. Я ЧАСТА ХАРАКТАРЫЗАВАЎ ЯГО ЯК ЗМАГАНЬНЕ ПАМІЖ СВАБОДАЙ І ТАТАЛІТАРЫЗМАМ, АЛЕ ВЫ ЯГО МОЖАЦЕ ЛЁГКА НАЗВАЦЬ ЗМАГАНЬНЕМ ПАМІЖ ПЯРОМ І МЯЧОМ — ПАМІЖ ПЕРШАЙ ПАПРАЎКАЙ ДА НАШАЙ КАНСТЫТУЦЫІ І АРТЫКУЛАМ ШОСТЫМ КАНСТЫТУЦЫІ САВЕЦКАЙ. ГЭТА ТОЙ, ЯКІ СТАВІЦЬ ПАРТЫЮ ВЫШЭЙ ЗА КРАІНУ. УСЁ БОЛЬШ І БОЛЬШ ХОД ГЭТАГА БОЮ СТАЕЦЦА ЯСНЫМ, ПРЫНАМСЯ НА АДНЫМ ФРОНЬЦЕ. ТЫМ ЧАСАМ ЯК АМЭРЫКА ДЫ ІНШЫЯ СВАБОДНЫЯ ІНДУСТРЫЯЛІЗАВАНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІМКНУЦЬ НАПЕРАД ПРАЗ ТЭХНАЛЯГІЧНЫЯ ЧАСЫ, САВЕЦКІ САЮЗ І ЯГОНЫЯ КЛІЕНТЫ ЗАСТАЮЦЦА ЎСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ ЗЗАДУ. ЯК МОЖА ГРАМАДЗТВА З ПАВЯЗКАЮ НА ВАЧОХ ЗАХОЎВАЦЬ СВОЙ БАЛЯНС НА БЯЗУПЫННА ЗЬМЕНЛІВАЙ У ГЭТЫМ СЬВЕЦЕ ІНДУСТРЫЯЛЬНАЙ БАЗЕ, КАЛІ АДЗІНЫ СПОСАБ ДАСЯГНУЦЬ ГЭТАГА — ГЭТА ЗЬНЯЦЬ ПАВЯЗКУ Й ДАЗВОЛІЦЬ НАРОДУ БАЧЫЦЬ СЬВЕТ ДЫ ЯГОНЫЯ КАЛЕЙДАСКАПІЧНЫЯ ЦУДЫ».—*

**Прэзыдэнт ЗША Рональд Рэйган у прамове да газэтных рэдактароў, 13.IV.1988 г.**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# УШАНАВАНЬНЕ 70-Х УГОДКАЎ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР

## КЛІЎЛЕНД, АГАЁ

Аддзел БАЗА ў Кліўленьдзе адзначыў 70-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў нядзелю 20 сакавіка. Праграма дня пачалася ў царкве Жыровіцкае Божае Маці, калі настаяцель прат. М. Страпко пасьля Літургіі адправіў малебен за Беларускі Народ у прысутнасьці сьцяжное варты, Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча й вялікай грамады вернікаў.



*Хор «Васілёк». Кіраўнік — К. Калоша. Акампаністка (налева ад Калошы, ззаду) — Оля МакДэрмат (Дубаневіч).*

У гасьцініцы Гарлей у прадмесьці Кліўленду папаўдні адбыўся банкет, пасьля якога пачалася акадэмія. Адкрыў яе старшыня аддзелу БАЗА сп. Янка Ханенка. Па адсьпяваньні амэрыканскага гімну сп. Ханенка ў уступной прамове падкрэсьліў важнасьць адзначэньня сакавіковых угодкаў і прадставіў Старшыню Рады БНР др. Я. Сажыча, які гаварыў пра нацыянальны рух на Бацькаўшчыне ды пра абавязак эміграцыі сачыць падзеі й трымаць цесную лучнасьць з урадамі краінаў вольнага сьвету, інфармаваць іх аб падзеях на Беларусі.

Сп. Ханенка прадставіў др. Янку Запрудніка, які падрабязна прааналізаваў цяперашнія падзеі ў БССР, што сьведчаць аб росьце нацыянальнай сьведамасьці й наважаным супраціве русыфікацыі. Прамоўца падчыркнуў асабліва важны факт — актыўны ўдзел моладзі ў гэтым працэсе адраджэньня.

З прывітаньнем ад мэра гор. Кліўленду Джорджа Войнавіча выступіў сп. Аўгуст Пуст, які зачытаў праклямацыю аб абвешчаньні 25 сакавіка ў горадзе Днём Беларускай Незалежнасьці ды паведаміў, што у гэты дзень беларускі сьцяг будзе вывешаны над будынкам гарадзкое управы. Затым былі прывітаньні прысутныя ў залі сп-ня Ірэна Мароў, прадстаўніца Руху Нацыянальнасьцяў, ды суродзічы-Беларусы з Дэтройту.

Андрэй Кананчук прачытаў прывітаньне ад губэрнатара штату Агаё Цэлеста. Пісьмова віталі ўдзельнікаў сьвяткаваньня сэнатар Джон Глен, кіраўнічка Рэспубліканскіх Нацыянальных Групаў Амэрыкі А. Шэнолт, арганізацыя Эстонцаў у Кліўленьдзе, беларускія арганізацыі ў ЗША, Канадзе, працаўнікі Беларускае сэкцыі Ватыканскага радыё а. Тумашанскі й Я. Мойсік ды сп. М. Лужынскі з Аўстраліі.



*Сяброўкі з «Васілька» каля мастацкай выстаўкі.*

У мастацкай частцы салістка Іра Каляда-Сьмірнова добра выканала песьні «Васілёчкі», «Пакахай», а жаночы хор «Васлёк» — «Поле», «Родная староначка» й «Ручнікі». Салёвае выкананьне Оляй Лукашэвіч песьні «Палескія прасторы» захапіла ўсіх прысутных. Шчодрымі воплескамі быў яшчэ раз узнагароджаны жаночы хор «Васілёк» за песьні «Люблю наш край» і «Магутнае слова». Праграма закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

На залі, дзе адбывалася ўрачыстасьць, была наладжаная старанньямі сп-ні Евы Яраховіч выстаўка беларускага народнага мастацтва.

Сёлетнія сакавіковыя ўгодкі былі добра наладжаныя й прайшлі на высокім узроўні. Падзяка тут належыцца ўсім удзельніцам мастацкай праграмы, аддзелу БАЗА, Беларускаму Рэспубліканскаму Клюбу ды ўсім, хто падтрымаў арганізацыйна і сваёй прысутнасьцяй на сьвяце.

**К. П.**

## ТАРОНТА (КАНАДА)

Сьвяткаваньне тут адбылося 20 сакавіка, ладжанае Згуртаваньнем Беларусаў Канады ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры. Сьв. Літургія была адслужана Архіепіскапам Мікалаем, Першагіерархам БАПЦ, у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Па багаслужбе й супольнай застольнай бяседзе адбылася акадэмія.

Аднаўленая ад падлогі да столі свая заля, дакладчыкі з малодшага пакаленьня, наяўнасьць шматлічных новых удзельнікаў сьвяткаваньня — усё гэта сьветчыла аб жыцьцяздольнасьці й сталым абнаўленьні ЗБК, якому сёлета спаўняецца 40 год.

Выстаўка партрэтаў дзеячоў-гэрояў беларускае гісторыі й народнага мастацтва ўзбагаціла атмасфэру й зьмест сьвята.

Урачысты сход пачаўся малітвай. Кіраўнік яго сп. М. Ганько прачытаў пісьмовыя прывітаньні: ад старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча, ад імя Беларусаў Лёс-Анджэлесу (сп. Ч. Найдзюк), Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (сп. Я. Міхалюк), ад Беларускага Аб'яднаньня ў Зах. Аўстраліі (сп. М. Раецкі малодшы), ад сэктару Рады БНР у Бэльгіі, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага (сп-ня В. Рамук), аддзелу БАЗА ў Кліўленьдзе (сп. Я. Ханенка), Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне й заступніка Старшыні Рады БНР на Эўропу сп. Ул. Бортніка, Беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё (а. Р. Тамушанскі, сп. сп. Я. Мойсік і Р. Ногас), Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі ў Аўстраліі (сп. Ул. Сідлярэвіч), галоўнай управы БАЗА (сп. А. Шукелайць), Беларускага Хаўрусу ў Францыі (сп. М. Наўмовіч).

У дзень 25 сакавіка ля гарадзкое ратушы Таронта ўзьвіваўся беларускі нацыянальны сьцяг, аб чым штагоду стараецца заступнік старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Ка-

*(Працяг на 3-й б.)*

# *САВЕЦКАЯ ГАЗЭТА ПРА САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ЗША*

«Советская Белоруссия» (27.III.88) зьмясьціла вялікі артыкул гісторыка Мікалая Сташкевіча пра палітычныя падзеі на Беларусі 1917-1918 гадоў. Повадам да напісаньня артыкулу сталіся адзначаньня беларускай эміграцыяй у Амэрыцы ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР. У сваім артыкуле Сташкевіч, бальшыня гістарычных працаў якога напісаная гадамі застою, карыстаецца й далей штампамі застойнае пары, паказвае й цяпер падзеі 1917 году ў чорна-белых колерах, кіруючыся старымі догмамі.

Што да ягонае паінфармаванасьці пра беларускую эміграцыю ў Амэрыцы й сакавіковыя сьвяткаваньні, дык тут небарака-гісторык чуў звон, ды ня ведае дзе ён.

Сташкевіч піша, высмоктваючы з пальца сваю інфармацыю:

«Летась, прыкладам, прэзыдэнт Рэйган прыняў у Белым Доме ўдзельнікаў 'сакавіковых сьвяткаваньняў'. Як паведамляла нацыяналістычная газэта 'Беларусь', перад імі ён нават сказаў прамову. Прэзыдэнт заявіў пра сваю салідарнасьць зь беларускай рэакцыйнай эміграцыяй і заклікаў еймных прадстаўнікоў разам 'памаліцца, каб з Божай дапамогай цяжкі цяжар савецкага ўціску быў скінуты і беларускі народ меў-бы магчымасьць злучыцца' з нацыяналістычнай эміграцыяй у сьвяткаваньні 'юбілею БНР'. Гэты правакацыйны заклік гучэў у перадачах заходніх радыястанцыяў, якія заклікалі адзначыць 25 сакавіка 70-я ўгодкі гэтай самай БНР, абвешчаньне якой быцам-бы азначала аднаўленьне дзяржаўнасьці беларускага народу, што існавала ў далёкай мінуўшчыне ў форме Вялікага Княства Літоўскага. Упрошваць доўга не давялося. 25 сакавіка экстрэмісты-эмігранты пышна адзначылі 'юбілей'».

У сувязі з вышэй прыведзенай цытатай мусім сказаць:

1. Газэты «Беларусь» на эміграцыі няма, але ў Нью-Ёрку выходзіць газэта «Беларус».

2. Ніякага паведамленьня ў леташнім «Беларусе» ня было аб тым, што «прэзыдэнт Рэйган прыняў у Белым Доме ўдзельнікаў сакавіковых сьвяткаваньняў». «Беларус» гэткага напісаць ня мог, бо такога прыняцьця ня было.

3. У леташнім красавіковым нумары «Беларуса» было зьмешчанае пісьмовае прывітаньне ад Прэзыдэнта Рэйгана ўдзельнікам сьвяткаваньняў 69-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. З гэтага прывітаньня й цытуе Сташкевіч, хвальшыва інтэрпрэтуючы прыгэтым сваю цытату, бо заходнія радыястанцыі не заклікалі Беларусаў Амэрыкі «адзначыць 25 сакавіка 70-я ўгодкі гэтай БНР». Перадачаў заходніх радыястанцыяў у Амэрыцы ніхто ня слухае, ды іх і не пачуеш на тых радыяпраймальніках, якімі Амэрыканцы карыстаюцца. Перадачы гэтыя накіроўваюцца на Беларусь і людзі іх там слухаюць. Для людзей гэных і напісаны Сташкевічаў артыкул.

4. Сьвяткаваньні 70-х угодкаў БНР адбыліся ў сваёй бальшыні 27 сакавіка. Толькі ў Рычманд-Гіле і ў Кліўленьдзе сакавіковыя ўгодкі былі адзначаныя на тыдзень раней 20-га сакавіка. Сташкевічаў-жа артыкул 27 сакавіка быў ужо выдрукаваны. Значыцца, пішучы аб тым, што 70-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР былі адзначаныя «пышна», пісака Сташкевіч яшчэ нічога ня ведаў пра гэтыя сьвяткаваньні.

5. На пачатку свайго даўгога опусу Сташкевіч сьпяшаецца далучыць сябе да «перабудаваных» аўтараў. Ён кажа, што сучасная пара «галоснасьці» «вымагае глыбокае гістарычнае самасьведамасьці, паважнага навуковага асэнсаваньня мінулых падзеяў». «Мы бачым, — заяўляе Сташкевіч, — як ломяцца прымітыўныя схэмы ўва ўспрыйманьні нядаўнага мінулага, разбураюцца спрошчаныя мадэлі гістарычнага працэсу».

Што-ж мы бачым на самой рэчы? Мы бачым дагматыка, які толькі на словах за «новае мысьленьне». І мы бачым няхлюйнага публіцыста, які ня здолеў акуратна пераказаць тое, што ён вычытаў у газэце «Беларус».

***ЦІ ПАДТРЫМАЛІ ВЫ ГРАШОВАЙ АХВЯРАЙ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»?***

## ТАРОНТА (КАНАДА)

*(Працяг з 2-й б.)*

нады сп. Паўлюк Пашкевіч.

Добра апрацаваны даклад у ангельскай мове прачытала сп-ня Юльляна Грыцук-Мэкарская, дачка сьветлай памяці Алеся Грыцука, шматгадовага старшыні ЗБК й нястомнага нацыянальнага дзеяча.

Зьмястоўны даклад пабеларуску пра падзеі 1917-18 гадоў прачытаў сябра галоўнай управы ЗБК сп. Алесь Шаршуновіч.

Вітаў удзельнікаў урачыстасьці былы Старшыня Рады БНР й навочны сьветка падзеяў, зьвязаных зь Першым Усебеларускім Кангрэсам, др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Старшыня царкоўнай рады сп. Ул. Цялепш і сп. А. Нікановіч паінфармавалі пра ход рамонту залі, дзякавалі ўсім, хто спрычыніўся працай і фінансамі ды заклікалі іншых да дапамогі.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

*(Паводля Камунікату № 7 галоўнай управы ЗБК).*

## ПРАКЛЯМАЦЫЯ МЭРА ГОР. НЬЮ-ЁРКУ

**На працягу апошніх ста гадоў Беларусы, якія іміґравалі ў Нью-Ёрк, зрабілі ўклад у жыцьцяздольнасьць і разнастайнасьць нашага гораду. Яны наважана бароняць прынцыпы справядлівасьці і гэта служыць крыніцай натхненьня ўсім свабодалюбным людзям. На 25 сакавіка 1988 году прыпадаюць 70-я ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі. Амэрыканцы беларускага паходжаньня штагоду адзначаюць гэты юбілей урачыстасьцямі, якія падтрымваюць дух свабоды Беларусі ды захоўваюць і пашыраюць скарбы беларускае мовы й беларускіх традыцыяў. Дзеля гэтага я, Эдвард Коч, мэр гораду Нью-Ёрку, гэтым абвяшчаю дзень 25 сакавіка 1988 году Днём ушанаваньня беларускае Незалежнасьці.**

## РЫЧМАНД-ГІЛ, Н.-Ё.

Беларуска-Амэрыканскае Аб'яднаньне ў Рычманд-Гіле (раён гор. Нью-Ёрку) ладзіла сьвяткаваньне ў нядзелю 20 сакавіка ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Урачыстасьць пачалася багаслужбай, якую адслужыў а. Усевалад Шамяціла, хорам кіраваў сп. С. Жамойда. Быў адслужаны таксама малебен за Беларускі Народ. У ганаровай варце са сьцягамі стаялі сп.сп. П. Зыбайла й сп. К. Мерляк.

У падцаркоўнай залі адбылася акадэмія, якую вёў сп. К. Мерляк, старшыня БАА. Па выкананьні амэрыканскага гімну сп. Мерляк сказаў уступное слова ды зачытаў 3-ю Устаўную Грамату Рады БНР, якою была абвешчаная Незалежнасьць. Тэкст граматы прамоўца дапоўніў вытрымкамі зь «Ліста з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага ў сувязі зь сёлетнімі 150-мі ўгодкамі ад нараджэньня выдатнага рэвалюцыянера. Хвілінай цішы былі ўшанаваныя ўсе, хто загінуў у змаганьні за вольную Беларусь. Сп. Мерляк гаварыў таксама пра 1000-годзьдзе хрысьціянства на Беларусі.

Рэфэрат на тэму дня чытаў др. Вітаўт Кіпель. Дасягненьні беларускага руху за апошнія 80 год, сказаў дакладчык, даюць сёньняшнім удзельнікам гэтага руху чым ганарыцца. Ад выказанага Янкам Купалам жаданьня «людзьмі звацца», праз гэткія заклікі як Цьвікевічава «Дзяржаўнасьці не дають, яе трэба браць!», беларускае адраджэньне прыйшло нарэшце да Акту 25 Сакавіка, якім Беларусь была замацаваная на палітычнай карце Эўропы. 70-гадовы шлях дзяржаўнасьці, які прайшоў беларускі народ, сказаў др. Кіпель, сёньня стаўся аб'ектам вывучэньня й крыніцаю натхненьня для новых пакаленьняў Беларусаў. Дзякуючы пісьмовай спадчыне, якую пакінулі па сабе нашыя дзяржаўныя дзеячы (Езавітаў, Захарка, Варонка ды іншыя), мы даведваемся праўду пра БНР, мы бачым, што імкненьне Беларусаў да незалежнасьці ня было ніякай «інтрыгай», як гэта цьвердзілі з аднаго боку Расейцы, а з другога Палякі, а было спантанічным рухам нашага народу да свае нацыянальнае дэмакратычнае дзяржаўнасьці. Сёньня гэтае змаганьне трывае далей, ужо на новай дарозе й на вышэйшым узроўні.

Па рэфэраце сп. В. Тур прачытаў праклямацыі губэрнатараў штатаў Нью-Ёрк й Нью-Джэрзы, якімі дзень 25 сакавіка абвяшчаўся «Днём Незалежнасьці Беларусі». Сп. Мерляк прачытаў пісьмовыя прывітаньні: ад Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускага Вызвольнага Фронту (сп. Д. Касмовіч), Беларусаў Чыкага (В. Рамук), Кліўленду (Я. Раковіч), Аўстраліі (Алехнік), Лёс-Анджэлесу (Ч. Найдзюк). Вусна віталі сп.сп.: М. Сенька ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, А. Міцкевіч ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Афіцыяльная частка закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Адбыўся супольны абед, за які належыцца вялікі дзякуй нашым жанчынам.

**В. Ш.**

## НЬЮ-ЁРК — НЬЮ-БРАНСЬВІК

Сьвяткаваньне, ладжанае супольна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Арганізацыяй Амэрыканска-Беларускае Моладзі, адбылося 27 сакавіка. Угодкі Незалежнасьці паслужылі нагодаю галоўнай управе БАЗА, каб паінфармаваць кангрэсмэнаў і сэнатараў аб змаганьні Беларусаў з русыфікацыяй: да запрашальнага ліста былі далучаныя тэксты двух лістоў дзеячоў беларускае культуры да Гарбачова й артыкул зь Менску карэспандэнта газэты «Філядэльфія Інкўайэрэр».

Урачыстасьці пачаліся багаслужбай у царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд-Парку, якую адслужыў Архіепіскап Мікалай у суслужэньні айцоў Карпа Стара, Аляксандра Радэнковіча, Міхася Страпка, Васіля Андрэюка ды іпадыякана Аляксандра Нікановіча. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам рэгента Якуба Сапежынскага. У сваёй красамоўнай пропаведзі Ўладыка Мікалай заклікаў верыць у ўваскрошаньне Бацькаўшчыны, як хрысьціяне вераць у ўваскрэсеньне Ісуса Хрыста. Сьцяжную варту ў часе малебну за Беларускі Народ несьлі вэтэраны Сяргей Гутырчык, Андрэй Стрэчань і Мікалай Абрамчык. Багаслужба была зьнятая на відэайстужку.

Акадэмія адбылася ў залі гасьцініцы Гаянт-Рыджэнсы ў Нью-Брансьвіку. Адчыніў урачыстасьць старшыня АБАМ сп. Юрка Азарка ўступным словам. Па малітве, сказанай Уладыкам Мікалаем, і спажытку ежы, былі выслуханыя прамовы, даклады, прывітаньні й тэксты праклямацыяў.

З прамовай выступіў Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч (зьмешчаная асобна ў гэтым нумары). Даклады паангельску прачыталі: сп-чна Натальля Русак, адвакат, — пра Статут Вялікага Княства Літоўскага і Ўстаўныя Граматы БНР, а сп-чна Вера Запруднік, фінансавы аналіст, — пра нацыянальную самаабарону Беларусаў. Рэдактар «Беларуса» др. Янка Запруднік гаварыў пабеларуску пра абнаўленьне й паглыбле нацыянальнае самасьведамасьці — працэс, які дынамічна праходзіць цяпер на Беларусі ў маладым пакаленьні.

У чытаньні прывітаньняў ад Прэзыдэнта Рэйгана, кангрэсмэнаў і сэнатараў, праклямацыяў губэрнатараў штатаў Нью-Джэрзы й Нью-Ёрку, прывітаньняў ад мэраў гарадоў Нью-Брансьвіку й Нью-Ёрку ўзялі ўдзел Уля Шульжыцкая, Нона Азарка, Ірэна Азарка, Павал Рамана, Коля Рамана, Віктар Тур. Праклямацыі да сёлетніх угодкаў Незалежнасьці Беларусі выдалі таксама губэрнатары штатаў Мэрыленд, Пэнсыльванія, Канэктыкэт і Род-Айленд.

Тэкст праклямацыі мэра Нью-Ёрку Эдварда Коча ў сувязі з сьвяткаваньні ўгодкаў Незалежнасьці служыла навочнай ілюстрацыяй да словаў прамоўцы.

Сп. Ю. Азарка прадставіў сходу прысутных на залі Архіепіскапа Мікалая, а.а. Карпа, Васіля, Міхася й Аляксандра, кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў і гасьцей: заст. Старшыні Рады БНР др. Б. Рагулю, сп. М. Ганька, прадстаўніка ЗБК, сп. Ф. Бартуля, старшыню Фундацыі імя П. Крэчэўскага; др. В. Кіпеля, старшыню БІНіМ, сп. С. Гутырчыка, кіраўніка ЗБАВ, сп. Я. Раковіча, прадстаўніка Беларускае Фэдэрацыі Рэспубліканскіх Клюбаў; сп. А. Стрэчаня, прадстаўніка аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе й сэктару Рады БНР, сп. К. Мерляка, старшыню Бел-Ам. Аб'яднаньня, ды прывітаў беластаччанаў.



*Малебен у царкве Жыровіцкае Божае Маці. Фота А. Дубягі.*

Трэба адзначыць заслугу Беларускае Фэдэрацыі Рэспубліканскіх Клюбаў (старшыня сп. В. Мельяновіч) у атрыманьні прывітаньня ад Прэзыдэнта Рэйгана.



*Удзельнікі афіцыяльнай і мастацкай частак сьвяткаваньня. Фота А. Дубягі.*

З гарачай прамовай пра ўкраінска-беларускую салідарнасьць у вызвольным змаганьні выступіла старшыня Антыбальшавіцкага Блёку Народаў сп-ня Слава Стэцько.

Старшыня БАЗА сп. Антон Шукелайць у сваёй прамове гаварыў пра зьмену пакаленьняў у беларускім грамадзкім жыцьці і ўпэўненае перайманьне малодшымі адказных функцыяў. Роля моладзі ў сёлетнім сьвят-

У мастацкай частцы праграмы выступіў зь песьнямі пад гітару папулярны саліст Данчык Андрусышын,

*(Заканчэньне на 4-й б.)*

## НЬЮ-ЁРК — НЬЮ-БРАНСЬВІК

*(Працяг з 3-й б.)*

ён-жа выдатна прачытаў лірычны верш у прозе Сяргея Палуяна «Хрыстос Уваскрос!», а таксама танцаўнікі з ансамблю «Васілёк» пад кіраўніцтвам і з удзелам Алы Орса-Рамана з двума добра апрацаванымі танцамі («Мікіта» й «Карагод»).

Папулярная мясцовая газэта The Home News (28.III) зьмясьціла ілюстраваны рэпартаж пра адзначаньня ў Нью-Брансьвіку 70-я ўгодкі абвешчаньня БНР, падаючы прыгэтым інфармацыю пра Беларусь і ейнае нацыянальна-вызвольнае змаганьне.

## ЧЫКАГА, ІЛ.

Сьвяткаваньне, наладжанае Беларускім Каардынацыйным Камітэтам, адбылося ў нядзелю 27 сакавіка.

Беларускае Радыё сп. Жызьнеўскага ў сваіх перадсьвяточных перадачах зрабіла ўсё, каб заахвоціць грамадзтва ўзяць удзел у гэтай патрыятычнай імпрэзе, на якую Беларусы Чыкага запрашаюць прадстаўнікоў гарадзкіх і дзяржаўных уладаў, як і кіраўнікоў этнічных арганізацыяў.

Два тыдні перад сьвяткаваньнем адчынілася беларуская інфармацыйна-мастацкая выстаўка ў фае Чыкагскага Грамадзкага Цэнтру, якая трывала да 4 красавіка.

Наш бел-чырвона-белы сьцяг красаваўся на гарадзкой управе 25 сакавіка разам з амэрыканскім і гарадзкім сьцягамі. Губэрнатар Іліной Джэймс Томпсан выдаў праклямацыю, якою дзень 25 сакавіка абвяшчаўся Днём Беларускае Незалежнасьці ў штаце Іліной. Такія самыя праклямацыі выдалі: губэрнатары штатаў Індыяна Робэрт Д. Ор і Мінэсоты Руды Кэрпіч. Іхныя праклямацыі пераслалі нам сп. В. Пунтус і др. М. Смаршчок. Мэр гораду Чыкага Аўген Соер таксама абвесьціў дзень 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці. Абодва ілінойскія сэнатары прыслалі свае прывітаньні й пажаданьні. Кангрэсмэн Анунзыё замясьціў у Congressional Record абшырную даведку аб Беларусі. Штатавая сэнатарка Джуды Баар Топінка прыслала прывітаньні. Было прывітаньне ад Старшыні Рады БНР др. Сажыча.



*Беларускі нацыянальны сьцяг ля гарадзкой управы гор. Чыкага.*




*За прэзыдыяльным сталом у часе абеду.*

Як і летась, на сёлетняй сакавіковай урачыстасьці прывітальная тэлеграма ад Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана была надзвычайным мамэнтам.

У нядзелю 27 сакавіка адміністратар беларускай царквы Хрыста Збаўцы а. Язэп Сыру адправіў малебен за Беларусь і Беларускі Народ. У казані а. Язэп падкрэсьліў важнасьць урачыстасьці для беларускага народу. Багаслужба закончылася адсьпяваньнем малітвы-гімну «Магутны Божа».

Папаўдні прыгожая банкетная заля гасьцініцы Рыджэнсы Ін запоўнілася Беларусамі й запрошанымі гасьцямі. Сьвяткавальная праграма пачалася адсьпяваньнем амэрыканскага гімну сп-няй Авіс Прамсгафэр пад акампанімэнт свае сяброўкі Сузі Спасдрон. Айцец Джозэф Сыру сказаў малітву. Хвілінай цішыні ўшанавалі змагароў, што аддалі сваё жыцьцё за Беларусь.

Старшыня Каардынацыйнага Камітэту сп-ня Вера Рамук прывітала удзельнікаў сьвяткаваньня. Быў паданы абед.

Па абедзе пачалася акадэмія. Др. Толівэр прадставіў гасьцей. На сьвяткаваньні былі: др. Міраслаў Харкевыч, старшыня Украінскага Кангрэсавага Камітэту; Казімір Оксас, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў; Роўз Фарына ад гарадзкой управы гор. Чыкага; пастар Алексы Гарбузюк ад Украінскай Баптысцкай Царквы; Антоні Пэндзіх ад Палякоў; Інэса Стоўкс ад Латышоў. Амаль усе госьці прамаўлялі. Былі прачытаныя таксама ўсе праклямацыі й прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў і асобаў.

Поля Мартыновіч-Брэжнева й Оля Шукіна, выканалі пад акампанімэнт а. Язэпа Сыру тры лірычныя беларускія песьні.

Багдан Паўке прачытаў кароценькі рэфэрат аб пачатках хрысьціянства на Беларусі, а Валя Вакселіс прадэклямавала верш Алеся Гаруна «Начныя думкі». Поля Мартыновіч-Брэжнева пад той самы акампанімэнт выканала пару лірычных беларускіх песьняў.

За шматгадовую й ахвярную працу для Камітэту й беларускага грамадзтва сп-ня Вера Рамук уручыла спэцыяльныя плякеткі Васілю Пунтусу й Нікадзму Жызьнеўскаму. Ул. Валатоўскі прадэклямаваў верш Кузьмянкова «Родная мова». Айцец Сыру пад акампанімэнт Гэлены Сільвя выканаў дзьве беларускія песьні.

Др. Вітаўт Рамук прачытаў пабеларуску зьмястоўны рэфэрат на тэму дня, па якім нашыя сьпявачкі Оля й Поля пад акампанімэнт айца Сыру выканалі дзьве беларускія рэлігійныя песьні. Усе прысутныя адсьпявалі малітву-гімн «Магутны Божа».

Сьвятар Гарбузюк сказаў канцавую малітву, па якой сп-ня Вера Рамук падзякавала ўсім прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага гімну.

**А. Б.**

## САЎТ-РЫВЭР, Н.-ДЖ.

У нядзелю 27 сакавіка ў царкве імя Сьв. Ефрасіньні Полацкай малебен за Беларускі Народ адправіў іерэй Мячыслаў Брынкевіч у суслужэньні настаяцеля царквы Пратапр. Сьвятаслава Каўша.

Сьвяточная акадэмія адбылася ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры.

Адчыніў і праводзіў яе сп. Міхась Бахар. Пасьля адсьпяваньня хорам, пад кіраўніцтвам рэгента Аўгена Скаўронскага, амэрыканскага гімну сп. Бахар зачытаў надасланыя праклямацыі губэрнатараў штатаў: Нью-Джэрзы, Нью-Ёрку, Пэнсыльваніі, ды Іліной.

Мэр г. Саўт-Рывэру сп. Брасно пасьля кароткай прамовы зачытаў сваю праклямацыю. Наступна зь цікавай прамовай выступіў сп. Кастусь Мерляк.

Зачытаўшы прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў і сп-тва Найдзюкоў, сп. Бахар даў слова сваёй дачцэ Галіне, якая паангельску прачытала прынагодны зьмястоўны даклад. Пабеларуску цікавы даклад прачытаў паэт Масей Сяднёў.

У мастацкай частцы выступалі: Ірэна Цупрык, Масей Сяднёў, Янка Золак і Міхась Кавыль. Ірэна Цупрык прачытала верш Вілы Л., а паэты — свае вершы.

Хор пад кіраўніцтвам А. Скаўронскага прасьпяваў чатыры песьні: «О, Беларусь, мая шыпшына», «Поле, поле...», «Не пагаснуць зоркі ў небе» і «Гэй, сябры удалыя».

Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну ўрачыстасьць закончылася, і шматлікія прысутныя былі запрошаны на пачастунак, падрыхтаваны кіраўніцтвам Цэнтру.

А на шчогле каля гарадзкой управы вецер паласкаў бел-чырвона-белы...

**М. К.**

## ЛЁС-АНДЖЭЛЕС, КАЛІФ.

Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 27-га ў украінскай парафіяльнай залі, арганізаванае Сьвяткавальным Камітэтам. Ад імя Камітэту праграму вёў сп. Ч. Найдзюк. Пасьля адыграньня амэрыканскага гімну й малітвы «Магутны Божа» сп. Найдзюк прачытаў верш Ларысы Геніюш «Ня знаю».

Сп. К. В. прачытаў паангельску дэклярацыю, прысьвечаную 70-м угодкам незалежнасьці Беларусі, выдадзеную старшынём Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу ў Каліфорніі.

Былі прачытаныя прывітаньні ад Прэзыдэнта Рэйгана, старшыні Нацыянальнай Рады Рэспубліканскіх Этнічных Групаў сп-ні Анны Шэнолт, губэрнатара штату Каліфорнія Джорджа Дукмэнджана, сэнатара Піта Уільсана, кангрэсмэна Даніеля Люнгрэна, штатавага сэнатара Робэрта Бэвэрлі. У прывітаньнях была выказаная салідарнасьць зь беларускім вызвольным рухам і надзея на адраджэньне свабоды ў Беларусі. Усе прывітаньні былі атрыманы старшынём Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу ў Каліфорніі.

Сп-ня Юзя Найдзюк прачытала атрыманыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў ЗБВБ, ЗБК, БАЗА, БЦР, Бел. Каард. К-ту ў Чыкага, Беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё, ад сп-тва Ціпко.

Прыгожае выступленьне паангельску зрабіў сп. Антон Вініцкі пра беларускі незалежніцкі рух. Сп-ня Кацяя Вініцкая прадэклямавала вершы «25 Сакавіка» А. Гаруна і «Суды» Я. Купалы. Сп. К. В. зрабіў паангельску даўжэйшы даклад на тэму амэрыканскіх выбараў.

Праграма закончылася беларускім гімнам.

Сп-ня К. Вініцкая сабрала складкі на грамадзкія патрэбы на заклік сп. Ч. Найдзюка.

У часе пачастунку была адыграная касэта з выступам Данчыка ў Беласточчыне. Прыемнай неспадзеўкай была прысутнасьць на сьвяце рэдкага госьця, паважанай жонкі сп. А. Міцкевіча.

## ПЭРТ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

Угодкі Незалежнасьці Беларусі, арганізаваныя ўправай Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, адбыліся ў сыботу 26 сакавіка ў Беларускім Народным Доме. Пасьля адыграньня беларускага й аўстралійскага гімнаў уступным словам адчыніў урачыстасьць старшыня ўправы БАЎЗА сп. Міхась Раецкі малодшы. Сп. А. М. прачытаў прысланыя прывітаньні: ад ЗБВБ, Беларускае сэкцыі Ватыканскага радыё, ЗБК, Сьвяткавальнага Камітэту ў Лёс-Анджэлесе, Бел. Каард. К-ту ў Чыкага, Кліўлендзкага аддзелу БАЗА, Бел. Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі, Бел. Цэнтр. К-ту ў Вікторыі ды Фэдэральнае Рады Бел. Арганізацыяў у Аўстраліі.

Рэфэрат на тэму «25-га Сакавіка ў жыцьці маладога пакаленьня» прачытаў старшыня БАЎЗА. Дакладчык падкрэсьліваў у сваім дакладзе, што ідэал 25-га Сакавіка «ўжыцьцёвіцца толькі тады, калі маладое пакаленьне будзе поўнасьцяй шанаваць свае карані ды шчыра аддасца грамадзкай працы».

Маніфэст Прэзыдыюму Рады БНР прачытаў сп. М. Р. Быў праведзены збор ахвяраў на фонд БНР.

Сьвяткаваньне закончылася супольным пачастункам, за падрыхтаваньне якога нележыцца шчырая падзяка сяброўкам Аб'еднаньня Зосі й Марыльцы Елаб, Марыі Мароз, Ефрасіні Дамброўскай і Веры Раецкай.

Беларуская сэкцыя Этнічнага радыё прысьвяціла ўвесь паўгадзінны радыячас 70-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР. **Удзельнік**

*(Заканчэньне на 5-й б.)*

## МЭЛЬБУРН (АЎСТРАЛІЯ)

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

70-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка былі ўшанаваныя ў нядззелю 27-га. Пасьля сьв. Літургіі а. Прат А. Кулакоўскі адслужыў малебен за Беларускі Народ, сказаў зьмястоўную пропаведзь, заклікаў да згоднай далейшай працы.

Папаўдні ў Беларускім доме адбылася, ладжаная Беларускім Цэнтральным Камітэтам, акадэмія. Адчыніў яе старшыня БЦК сп. У. Сідлярэвіч, які прывітаў удзельнікаў ды прачытаў дзесяць атрыманых прывітаньняў ад беларускіх арганізацыяў у Канадзе, Ангельшчыне, Злучаных Штатах, БЦР, БВФ ды арганізацыяў у Аўстраліі (Сыднэі, Пэрце й Адэляйдзе). Сп. М. Нікан прывітаў ад Рады БНР.

Сп. П. Гуз прачытаў кароткі, але зьмястоўны рэфэрат, падкрасьляючы доўгае змаганьне Беларусаў за сваю Бацькаўшчыну.

Сп-ня В. Шайпак прачытала два вершы А. Мінкіна («У Полацку» і «Дуда»), а сп. М. Скабей — два вершы А. Салаўя («Змагаром» і «Над Слуцкам днее»). Сп. У. Сідлярэвіч паінфармаваў аб заплянаваным БАПЦ сьвяткаваньні ў Мэльбурне (24.IV) 1000-годзьдзя хрысьціянства на Беларусі ды аб Этнічным музэі ў Канбэры, сталіцы Аўстраліі, у якім арганізуецца беларускі аддзел. Больш інфармацыі пра збор экспанатаў для выстаўкі даў сп. М. Скабей. Быў таксама прачытаны ліст да сп. В. Шайпака ад сьвятара зь Беластоку з падзякаю за грашовую дапамогу ад Беларусаў Мэльбурну на будаўніцтва праваслаўнае царквы ў Беластоку.

Урачыстасьць закончылася гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Адбыўся сяброўскі пачастунак, які прайшоў у прыемнай атмасфэры.

**М. Н.**




Сямідзесятыя ўгодкі абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі

siedemdziesiąta rocznica powstania niepodległej Białoruskiej Republiki Ludowej




*Лістоўка, выданая й пашыраная ў Варшаве. У наступным нумары будзе зьмешчаная рэпрадукцыя сакавіковай паштоўкі беларускіх студэнтаў у Беластоку.*

## У РАМАНЕ ПРА ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Беларускі савецкі празаік Гэнрых Далідовіч напісаў раман «Пабуджаныя» пра нацыянальна-палітычныя падзеі на Беларусі ў 1917 годзе. Разьдзелы з раману выдрукаваныя ў 11-м і 12-м нумарох часапісу «Маладосьць». Твор гэты ў ладнай меры дакумэнтальны, у ім дзеюць шмат якія гістарычныя асобы. Даволі дэтальна апісваецца ў рамане арганізацыя й прабег Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, улучна з разгонам яго бальшавікамі й арыштам прэзыдыюму Кангрэсу. У пасьляслоўі да раману гісторык Мікалай Сташкевіч (які спэцыялізуецца на тэме БНР-БССР) зазначыў: «Пісьменьнік у цэлым удала перадольвае схэматызм, крайнія альбо нецярпімыя ацэнкі складаных грамадзкіх зьяваў, як і трэба, сьмела ўжывае шматколерныя хварбы, якія спрыяюць і ярчэй і праўдзівей паказаць тое, што адбывалася». Нажаль, падобнае ацэнкі нельга даць публікацыям самога Сташкевіча, які дасюль пісаў пра БНР-БССР толькі ў чорнабелых колерах. Сташкевіч заклікаў Г. Далідовіча напісаць працяг свайго раману пра «ня менш цяжкі 1918 год».

## З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗША

*(Заканчэньне; пачатак і працяг у №№ 340-345)*

Праз Балтымор і Філядэльфію вяртаемся дадому. Час, які мне застаўся — нажаль, ужо толькі некалькі дзён — выкарыстаў, каб адведаць маіх сяброў, тых прынамся, хто бліжэй да Самэрсэту. Некаторых я сустрэў у Бэлеры, беларускім цэнтры адпачынку ў штаце Нью-Ёрк, куды мы паехалі з Надзяю. Цудоўная мясьціна, Бэлер, прыгожа разьмешчаная сярод лесу, над возерам. Цэнтар адпачынку, спатканьняў Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, спартовых гульняў і спаборніцтваў для моладзі. Тут я спаткаў свайго даўнага знаёмага яшчэ аж з Равэнсбургу (Нямеччына) Уладзіка, пазнаёміўся зь ягонай мілай Алéнькай, Кашубкай, ды іхнымі дочкамі.

Сустрэўся са старымі сябрамі. Наведаў Зору й Вітаўта, спачатку ў іхным доме, а пасьля Зору ў Публічнай Бібліятэцы Нью-Ёрку, а Вітаўта ў рэдакцыі «Беларуса». Там спаткаў і Янку, зь якім мяне вяжа аж любэнскае знаёмства, сп. Антона Адамовіча, сп. Антона Шукелойця ды Васіля, таксама старога любэнца.

Быў на багаслужбе ў царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку, на пікніку пасьля службы. І тут спаткаў сяброў яшчэ аж зь Нямеччыны. З Надзяю зьведаў царкву сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры ўжо раней ды пасьля пабыў там на багаслужбе. І там спаткаў знаёмых яшчэ са Шляйсгайму (Нямеччына). Пазнаёміўся з многімі другімі. Спадарства Літаровічы запрасілі нас на абед, дзе за багатым сталом, у сваёй шчыра беларускай і сяброўскай атмасфэры мы паўялі пару прыемных гадзін.

З др. Алай наведалі мы яшчэ раз, але ўжо на самым краю Лёнг-Айленду, над берагам акіяну, Нюру і Валодзю, у якіх да вайны й падчас вайны жыў я на кватэры і цяпер прабыў пару дзён. Пакупаліся мы ў моры, хоць плывец зь мяне не вялікі. Пілнавала Ала. Яна плавае, як рыба.

Сябры мае, усе, каго бачыў і каго ня бачыў, як я Вас падзіўляў і буду заўсёды падзіўляць за ўсё тое, чаго Вы дамагліся, чым Вы сталі, ды, ужываючы як-жа добра Вам зразумелае слова courage, за Ваш courage, за сілу волі. Пачатак Вашай жыцьцёвай дарогі ў Злучаных Штатах бяз слова ангельскай мовы, бяз цэнта ў кішані, Вашае змаганьне за кавалак хлеба, за дах над галавою і за асьвету, або настрыфікацыю дыплёмаў, былі нейметаверна цяжкія. Ніводзін з Вас не заламаўся, ня здаўся, а часамі, памагаючы адзін аднаму, ці проста падбадзёрваючы або служачы добрым прыкладам, усе Вы дайшлі да свае мэты. Кожны з Вас заняў адказнае становішча ў эканамічным, сацыяльным, навуковым або палітычным жыцьці краіны. А якую аграмадную грамадзка-культурную працу на беларускай ніве праводзілі Вы раней і працягваеце цяпер. Навуковыя канфэрэнцыі, фальклёрна-мастацкія фэстывалі, зямляцкія зьезды, дзейнасьць у рэлігійным жыцьці... Вялікаю цаною Вы за гэта плацілі, а часта плоціце й сёньня. Падзіўляю Вас і захапляюся Вамі. Вашым дзецям ужо лягчэй. Дзякаваць Богу. Бацькі адцярпелі і за іх.

Успомніў я сваіх сяброў, але ня ўсіх. Думаю аб адным, хіба-ж найдаражэйшым, бо колькі-ж нам разам давялося перажыць і добрага і дрэннага, бадзяючыся яшчэ на развалінах Нямеччыны, жыць разам у адным пакоі.

Геню Кудасава я спаткаў ужо на могілках, каля царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Прыгожы помнік зь цёмнага граніту. Высечаны крыж і надпіс. Вось, Геня, дзе нам давялося яшчэ раз спаткацца. Балючае, сумнае спатканьне. Бо-ж яно магло быць і пры гутарцы ў Тваім прыгожым доме, там, дзе я правёў доўгія гадзіны, а мо й дні, разглядаючы Твае альбомы, успамінаючы нашае супольнае мінулае. І зноў пабывалі мы ў Вальдзэе, Равэнсбургу, Мюнхэне, Бэрхтэсгадэне, у Шляйсгайме. Дзякуючы расказу Надзі, даведаўся я крыху й пра Тваё жыцьцё ў Амэрыцы, пра Твае шчасьлівыя мамэнты і час горычы, доўгі час. Як і да ўсіх, зайшоў і да Цябе другі раз, каб разьвітацца з Табою. І каб Ты мог, Геня, Ты ўглядзеў-бы, калі я пакідаў месца Твайго супачынку, сьлёзы ў маіх вачах — вось так як і цяпер, калі пішу гэтыя словы і калі ў душы маёй нейметаверны жаль. Твае словы, высечаныя на помніку, «Прада мною маячыць усё прошлае, усе надзеі і мары аказаліся сэрцу далёкія, спадзяваньням маім...», кранулі мяне да глыбіні душы.

Вось прайшло пяць тыдняў сярод маіх сяброў і прыяцеляў у Злучаных Штатах. Тысячы міляў самалётам, самаходам ці аўтобусам. Быў гэта шчасьлівы для мяне час. Тое, што я бачыў, я апісаў, хоць і недаканала. Але мушу сказаць яшчэ адно: падчас усяго майго побыту тут, я не карыстаўся ніякай другой мовай як беларускай. Родная мова, што ўжо была сталася нейкай шурпатай, нягнуткай, бо вельмі рэдка ўжыванай сярод нас у Бэльгіі (найчасьцей мяшаныя сужэнствы), пачала аднаўляцца. Забытыя словы, моўныя звароты, пачалі ізноў ажываць. Куды-ж трэба было ехаць — у Амэрыку! — каб прайсьці «летні ўнівэрсытэт» беларускай мовы, мовы чыстай, сьпеўнай, плывучай, бо з душы людзей, роднай мовы. Шчыры дзякуй маім Амэрыканцам і за гэта.

Вярнуўшыся дадому, у Бэльгію, вобразы ўсяго бачанага ажываюць як-жа часта! Задумаюся часамі, заплюшчу вочы, вось ізноў — ужо каторы раз — пад зорным небам Калярада, у Санта-Фэ, у Вашынгтоне, ці проста ў Самэрсэце ў штаце Нью-Джэрзы.

**А. Арэшка**

## «УЦЕЧКА МАЗГОЎ» З ПОЛЬШЧЫ

Паводля выдаванага радыястанцыяй «Вольная Эўропа/Радыё Свабода» бюлетэню Soviet/East European Report (№ 19, April 1, 88), з Польшчы ў пэрыядзе паміж 1980 годам і 1987 выехала прыблізна 600 тысячаў асобаў на сталае або даўгатэрміновае жыцьцё на Захадзе. Зь іх каля 70% у веку да 35 гадоў і каля 10% з унівэрсытэцкай асьветай. У Польшчы цяпер ідуць спрэчкі вакол пытаньня, ці патрыятычна гэта эміграваць на Захад.

Сярод масы эмігрантаў з Польскае Народнае Рэспублікі ёсьць і нашыя суродзічы-Беларусы, найчасьцей зь Беласточчыны. Шмат хто зь іх, трапіўшы на Захад, шукае кантактаў зь беларускімі арганізацыямі. Ёсьць цімала выпадкаў, калі новапрыбылыя з Польшчы Беларусы далучаюцца да беларускіх цэркваў і арганізацыяў. Гэта вартасныя людзі: здольныя, працавітыя і шчырыя Беларусы. Яны заслугоўваюць на ўсялякае падтрыманьне й дапамогу. Імі папаўняюцца беларускія арганізацыі ў Канадзе й ЗША. Дапамога, арганізацыйная і прыватная, якую беларуская эміграцыя дае суродзічам у Польшчы і з Польшчы — гэта справа ня толькі маральная, але й карысная для беларускага нацыянальнага жыцьця.

*З ЖЫЦЦЯ Ў АЎСТРАЛІІ*

## ВЫСТАЎКА Ў МУЗЭІ

**Адэляйда, Паўдзённая Аўстралія.** — У музэі этнічных групаў, што быў заснаваны ў Адэляйдзе ў 1979-82 гг., ладзяцца сталыя выстаўкі зь гісторыі, геаграфіі, культуры. Тут можна азнаёміцца й зь гісторыяй пасяленьня імігрантаў, якія пачалі масава прыбываць у 1948 годзе. У суседнім-жа з музэем будынку выстаўкі ладзяцца рознымі групамі на абмежаны час. Вось і Беларусы атрымалі магчымасьць правесьці тут сваю выстаўку ў часе ад 13.II.88 па 3.IV.88.

Найбольш працы ў зладжаньне выстаўкі ўлажыў былы старшыня Беларускага Аб'еднаньня сп. Янка Ролсан, якому дапамагалі новы старшыня сп. Мікалай Колес (Калесьніковіч), сакратар Жэня Юршо і матушка Соня Бурнос.

На выстаўцы паказаныя: карта Беларусі, ручнікі, радзюшкі ды іншыя мастацкія вырабы, дадзеная інфармацыя ў ангельскай мове пра Беларусь.

Выстаўка адчынілася ў сыботу 13-га лютага. На ўрачыстасьць адчыненьня прыбыло асобаў 60 Беларусаў і гасьцей. Былі запрошаныя прадстаўнікі ўладаў: міністар этнічных справаў сп. Самэр (C.J. Summer), камісар этнічных групаў сп. Шульц (Shulz), старшыня ўправы этнічных групаў сп. Гэрэмі (Garamy) ды куратар сп-ня Малгажэвіч.

Сп-чна Наташа Якша, з малодшых, прадставіла Беларусам гасьцей, прывітала ўсіх, сказала пра самабытнасьць гістарычнага й культурнага разьвіцьця Беларусаў ды перадала слова старшыні Аб'еднаньня сп. Колесу.

Сп. Колес падзякаваў усім, хто спрычыніўся да наладжаньня выстаўкі, выказаў удзячнасьць аўстралійскаму ўраду за прыняцьцё імігрантаў і забясьпечаньне ім умоваў свабоднага разьвіцьця.

Міністар этнічных справаў сп. Самэр падзякаваў за нагоду быць на ўрачыстасьці адчыненьня беларускай выстаўкі. Музэй гэткі, сказаў ён, існуе толькі ў Паўдзённай Аўстраліі ў Адэляйдзе, музэй дае нагоду азнаёміцца зь гісторыяй прыбыцьця новых пасяленцаў. У 1986 г. пачаліся ладзіцца ў музэі выстаўкі розных групаў. Дзякуючы гэтым групам Аўстралія цяпер жыве ў лучнасьць з цэлым сьветам. Прамоўца адзначыў важнасьць беларускае выстаўкі для азнаямленьня зь гісторыяй і культурай Беларусі.

На выстаўку прыходзіць шмат наведнікаў, у тым ліку студэнты.

Сп. Колес даў 15-га лютага інтэрвію па радыё, у якім паінфармаваў пра Беларусь. Здарылася якраз, што таго-ж самага дня ў адэляйдзкі порт прыбыў савецкі пасажырскі карабель «Беларусь». Аб прыбыцьці «Беларусі» ў порт паведаміла тэлестанцыя 9-га каналу. Інфармацыя пра беларускі карабель ды пра Менск як сталіцу Беларусі паспрыяла зацікаўленьню нашай выстаўкай.

**У. Акавіты**

## СПАТКАНЬНЕ ЭТНІЧНЫХ ГРУПАЎ

**Пэрт, Зах. Аўстралія.** — Тут 18-га лютага ў выгадным Італьянскім Клюбе адбылося спатканьне прадстаўнікоў усіх этнічных групаў Зах. Аўстраліі зь міністрам шматкультурнасьці й этнічных справаў сп. Г. Гілам. Склікалае яно было новым кіраўніком Камісіі для шматкультурнасьці й этнічных справаў сп. Дэсам Сторэрам з мэтай абмену паглядамі.

Сп. Гіл у сваім выступленьні выявіў добрую азнаёмленасьць з праблемамі імігрантаў, паінфармаваў пра захады ўраду для палепшаньня долі новых пасяленцаў.

Сп. Сторэр падзяліўся сваімі меркаваньнямі аб палепшаньні статусу імігрантаў ды папрасіў перадаць яму прапановы ад этнічных групаў для прадстаўленьня іх ураду.

Спатканьне закончылася пачастункам, у часе якога прадстаўнікі этнічных групаў мелі магчымасьць пазнаёміцца зь міністрам і сябрамі камісіі.

Беларусаў на спатканьні рэпрэзэнтаваў сп. М. Раецкі-старэйшы.

**М.Р.**

## 4-ГОДЗЬДЗЕ РАДЫЯПРАГРАМЫ

**Пэрт, Заходняя Аўстралія.** — Чацьвертага сакавіка сёлета споўнілася чатыры гады як у гор. Пэрце існуе беларуская радыяпраграма. 25-га сакавіка сёлета ў эфір пайшла 200-я перадача. Беларускі Радыякамітэт у Заходняй Аўстраліі й ягоны кіраўнік сп. Міхась Раецкі заслугоўваюць на ўдзячнасьць і ад слухачоў (беларускія перадачы слухаюць усе, хто разумее славянскія мовы) і ад беларускага грамадзтва наагул. Але на толькі на ўдзячнасьць заслугоўваюць яны, але й на грашовае падтрыманьне праграмы. «Беларус» пісаў ужо пра гэта. Цяпер яшчэ раз нагадваем, што ў меру таго як ідзе час, робіцца й выдаткі на праграму. Даплачваць даводзіцца 250 даляраў штo тры месяцы. Запас грошай у касе Беларускага Радыякамітэту невялікі. Дзеля гэтага нагадваем усім добрым людзям, што беларуская радыяпраграма ў Пэрце патрабуе далейшае дапамогі.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

**На беларускія радыяперадача ў Зах. Аўстраліі ахвяралі:**

| | | |
|---|---|---|
| Фэд. Рада Бел. Арг. Аўстр. і бел. арг. ў Мэльбурне | дал. | 569 |
| Бел. Культ.-Грам. Клюб у Сыднэі | | 100 |
| М. Лужынскі | | 100 |
| А. Міцкевіч | | 40 |
| А. Лашук | анг.ф. | 20 |
| З. і А. Далінскі | дал. | 20 |

Усім ахвярадаўцам шчыры беларускі дзякуй!

Кіраўнік Бел. Радыякамітэту ў З.А.
**Міхась Раецкі**

## АБВЕСТКА

У выдавецтве «Беларус» можна набыць ніжэй названыя кнігі Масея Сяднёва па 10 дал. за кнігу (плюс кошт перасылкі). Сп. Сяднёў ахвяроўвае 50% прыбытку ад продажу кнігаў на выдаваньне «Беларуса».

ПАТУШАНЫЯ ЗОРЫ. Паэзія. Вершы й паэмы. 280 б. 1975.

АЧЫШЧЭНЬНЕ АГНЁМ. Вершы. 218 б. 1985.

РАМАН КОРЗЮК. Раман. 314 б. 1985.

І ТОЙ ДЗЕНЬ НАДЫЙШОЎ. Раман. 245 б. 1987.

Чэкі за кнігі трэба выпісваць на газэту «Беларус» (Bielarus).

## «КАМУНІКАТ ЗБК» № 7

У сёмым нумары камунікату галоўнай управы Згуртаваньня Беларусаў Канады: рэпартаж пра сьвяткаваньне 70-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР; заклік да пабудовы Беларускага мэмарыяльнага крыжа ў Канадзе; верш З. Бядулі 1919 году «Прысяга» з ангельскім перакладам Веры Рыч і тэкст вельмі добрага англамоўнага дакладу Юльляны Грыцук-Мэкаркай на сакавіковым сьвяткаваньні ў Таронце.

## РАМАНЫ МАСЕЯ СЯДНЁВА

**Водгукі з Аўстраліі**

Ад часу выхаду раману «Раман Корзюк» Масея Сяднёва ягоны аўтар атрымаў шмат лістоў-водгукаў з высокай ацэнай твору як з гледзішча на актуальнасьць кнігі, гэтак і ейныя мастацкія якасьці.

«Не магу перадаць Вам, — піша адна чытачка, — колькі задаваленьня атрымала я:апершае, ня чытала на беларускай мове, вось ужо хутка будзе паўвеку, такой моцнай кнігі, такой роднай і гэтак памастацку напісанай. Талент пісьменьніка так уражае мяне, што здымаеш акуляры й выціраеш сьлёзы. Колькі яркіх параўнаньняў, нашых прымавак, амаль ужо забытых! Сяднёў уваскрасіў іх, разбудзіў наша беларускае жыцьцё, нашы пачуцьці да Бацькаўшчыны. Кніга ідзе сьлядамі майго жыцьця — усё такое знаёмае й перажытае. Мароз прабягае па целе, калі чытаеш, як кулачылі Корзюкаў. Я ўжо пачала папулярызаваць гэтую выдатную кнігу сярод Беларусаў».

«Вельмі дзякую за прысланую кнігу, — піша да сваіх знаёмых іншы чытач. — Кніга напісаная цікава, зьмястоўна й праўдзіва, добрай беларускай мовай, такой, якая ёсьць у ўсходняй Беларусі. Азнаёмленасьць аўтара з падзеямі й самой сталіцай Менскам проста зьдзіўляе. Мы, канешне, разумеем, што гэта раман, шкада толькі, што ў ім шмат нерамантычнага, а праўдзіва-горкага».

**У беларускай праграме Этнічнага радыё ў Сыднэі** 5 красавіка сёлета рэцэнзэнт Сымон Шаўцоў сказаў:

«Дзьве кнігі прозы таленавітага беларускага пісьменьніка на эміграцыі Масея Сяднёва — раманы 'Раман Корзюк' і 'І той дзень надыйшоў' — напісаныя высокамастацкай, прыгожай беларускай мовай. Раманы захапляюць сваім зьместам, дынамізмам, прыгожай літаратурнай формай.

«У рамане 'Раман Корзюк' апавядаецца пра лёс беларускай інтэлігенцыі ў 30-ыя гады — у гады сталінскага пагрому беларускай культуры, вынішчэньня ейных лепшых прадстаўнікоў. У рамане выведзеныя канкрэтныя гістарычныя асобы, добра ведамыя беларускаму народу пісьменьнікі, паэты, навукоўцы, грамадзкія дзеячы.

«Другі раман Масея Сяднёва апавядае пра цяжкі лёс, жудаснае жыцьцё беларускай вёскі Мокрае падчас нямецкай акупацыі. Раман чытаеш з болем у сэрцы, з роспачай у душы. Гэта горкае слова праўды. Раман у ладнай меры аўтабіяграфічны, напісаны пераважна ад першай асобы, зь цікавай фабулай і зьместам, захапляе, не адпушчае чытача. Ёсьць у рамане і доля можа непатрэбнай, залішне аголенай сэксуальнасьці. Але трэба ўлічыць той час і абставіны, у які адбываецца дзея раману. Раманы М. Сяднёва — гэта адзін зь лепшых літаратурных набыткаў, што мы маем па-за межамі нашай Бацькаўшчыны. Варта кожнаму Беларусу набыць і прачытаць гэтыя унікальныя кнігі».

## «ЗВАЖАЙ» № 1/49, 1988

Каму гэта патрэбна? — арт канадзкага журналіста П. Ўортынгтона пра суд над Украінцам Іванам Дзямянюком у Ізраілі; Я. Барэйка — Кастусь Каліноўскі; «Вожык» без «адыёзных рудымэнтаў паказухі» (выказваньні рэдактара сатырычнага часапісу «Вожык» аб тым, як ідзе «перабудова» «Вожыка»); Юбілей вэтэранскага сьцягу (даклад маёра С. Гутырчыка); М. Нікану — 80 год; хроніка; верш А. Гідоні «Уход из Афганистана».

## 75-ГОДЗЬДЗЕ Ю. ПОПКІ

Amtsblatt der Stadt Leimen (Бюлетэнь гораду Ляймэну) у нумары за 2 кастрычніка 1987 г. ўшанаваў 75-я ўгодкі жыцьця й 50-я ўгодкі літаратурнае дзейнасьці сп. Юр'я Попкі. У біяграфічнай давецьцы пра юбіляра — Беларуса спад Белавескае пушчы — бюлетэнь паінфармаваў пра ягоную культурна-грамадзкую працу, паведаміў пра заснаваньні сп. Попкам у 1982 г. Беларускі Музэй у Ляймэне, а ў 1986 г. — Беларускі Інстытут. Ад імя мэра Ляймэну, гарадзкое ўправы й ад сябе бюлетэнь выказаў юбіляру пажаданьні добрага здароўя.

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

У выдавецтве заснаванага пазалетась у гор. Ляймэне ў Зах. Нямеччыне Беларускага Інстытуту выйшлі гэткія публікацыі:

**«ВЕСТКІ Інстытута Беларусаведы» № 04/89.** Гэта зборнік (80 бал.) ксэраксаванага друкаванага, машынапіснага й рукапіснага матар'ялу, дасьледніцкага, публіцыстычнага, літаратурнага й эпістальярнага характару, сярод якога трэба адзначыць архіўную спадчыну пісьменьніка Хведара Ільляшэвіча й арт. Антона Мірановіча «Умовы фарміраваньня беларускай сьвядомасьці праваслаўнага асяродзьдзя на Беласточчыне ў ХХ ст.».

**«ВЕСТКІ Інстытута Беларусаведы» № 05/90** (гал. рэд. Ягор С. Чорнагалоў). На 82 машынапісна-ксэраксных балонках зьмешчаныя артыкулы: Мікола Перасьвет — Беларуская гальгота; Юры Попка — Хрышчэньне Літвы?; ліст а. Ўладыслава Чарняўскага пра шавінізм польскіх ксяндзоў на Беларусі; М. Перасьвет — Да пытаньня стварэньня першай беларускай нацыянальнай партыі; Да беларускай інтэлігенцыі Беласточчыны; Некалькі крытычных заўваг на тэму «Ці ёсьць Палякі на Беларусі?»; інфармацыя М. Перасьвета пра апошнія падзеі ў нацыянальна-культурным жыцьці Беларусаў у БССР; літаратурны абразок Ю. Жывіцы «Над возером» ды іншыя матар'ялы.

**Зборнік матар'ялаў** пра Беларусь панямецку (68 бал.): DIE WÜRZELN DER BJELORUSSISCHEN (WEISSRUTHENISCHEN) NATION UND KULTUR. Redakteur Juri Popko. Übersatzung von Ferdinand Neureiter. У кнізе: заўвага Палачаніна і Трахімава пра беларускую мінуўшчыну; увод у гісторыю Беларусі Язэпа Белавескага; арт. Р. Астроўскага пра беларускую культуру XIV-XVI ст.ст.; агляд гісторыі Беларусі аўтарства Юр'я Попкі; ліст да Гарбачова 28-х дзеячоў беларускае культуры; апавяданьне Ю. Попкі «Сьвяты меч»; перакладзены Ф. Нойрайтэрам гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Уладзіслаў** Петрук. ПАДЛЯШСКАЯ АРХІЭКТУРА XIX СТ. Альбом рысункаў. Аўтар альбому паходзіць зь Беласточчыны, ён — выпускнік вышэйшае школы графікі ў Ляйпцыгу, супрацоўнік газэты «Ніва».

**Зборнік матар'ялаў** да пытаньня сучаснае Рыма-Каталіцкае Царквы на Беларусі пад заг. BRIEFE AN PAPST WOJTYLA VON JURI POPKO in bjelorussischer und deutscher Sprache. Dokumente in bjelorussischer und polischer Sprache. 2 Auflage,ergänzt. (Лісты да Папы Вайтылы ад Юр'я Попкі ў беларускай і нямецкай мовах. Дакументы ў беларускай і польскай мовах. 2-е дапоўненае выданьне).

**ДАДАТАК-ДАПАЎНЕНЬНЕ да кнігі «НЕДАПЕТАЯ ПЕСЬНЯ».** Жыцьцё і літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча. Сабраў і апрацаваў Юры Жывіца. 42 бб.

## СЬВ. ПАМ. ЕФРАСІНЬНЯ ЛІТВІНЕНКА

23 сакавіка 1988 г. пасьля цяжкой хваробы адыйшла на вечны спачынак Ефрасіньня (з дому Грабоўская) Літвіненка.

Нябожчыца нарадзілася 11.XI.1914 г. ў Віньніцы на Ўкраіне. Асіраціла мужа Івана, замужніх дачок Раісу й Люсю, унукаў ды пакінула шчыры жаль па сабе ў сэрцах парафіянаў царквы Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж. Ад 1952 г. яна была парафіянкаю гэтае царквы, у якой муж ейны Іван Літвіненка шмат гадоў аддана й спраўна выконвае абавязкі царкоўнага старасты.

Напрыканцы II-й сусьветнай вайны Літвіненкі зь дзьвюма немаўляткамі-дачушкамі апынуліся ў ваколіцах Марбургу, далучыліся там да гэткіхжа выгнанцаў-Беларусаў. Ня здолеўшы адразу выехаць у Амэрыку, Іван Літвіненка зь сям'ёй падаўся на заработкі ў бэльгійскія шахты. З Бэльгііж Літвіненкі перабраліся ў Амэрыку, у штат Нью-Джэрзы, дзе неўзабаве далучыліся да парафіі Жыровіцкае Маці Божае, калі парафія яшчэ ня мела свайго царкоўнага будынку. Ад таго часу парафіяне й памятаюць Нябожчыцу, як асобу добрае душы, якая заўсёды мела для кожнага лагоднае слова й ветлую ўсьмешку. Сьветлай памяці Ефрасіньня заўсёды загадзя прыяжджала з мужам-царкоўным старастам у царкву, рупліва даглядала ўсё й наводзіла парадкі. Таму ў царкве ў часе паніхіды, адслужанае а. Пратаерэем Васілём Андрэюком, як і ў залі пахавальнага бюро Малішэўскага было шмат тых, што прыйшлі разьвітацца зь Нябожчыцай. Назаўтра-ж, незважаючы на праліўны дождж, усе прыехалі на могілкі, каб аддаць ёй апошнюю пашану.

На жалобным абедзе глыбокія й прачулыя словы спачуваньня сям'і Нябожчыцы выказалі Ўладыка Мікалай, сп.сп. В. Русак, М. Тулейка, Я. Місюль, П. Кажура і В. Стома.

На лапіку беларускай зямлі ў Іст-Брансьвіку сьпі спакойна, Дарагая Сястра. Няхай Табе, чарнабровай Украінцы, прысьняцца пшанічна-вішнёвыя прасторы Украіны, так як тым сінявокім Сёстрам, якія спачываюць каля Цябе, напэўна сьняцца ўквечаныя валошкамі-васількамі нівы з-над Дзьвіны, Вяльлі, Нёману й Прыпяці.

**Парафіянін**

### «РЭГАБІЛІТАЦЫЯ» А. ГАРУНА

У доме літаратара ў Менску 16-га лютага адбылося спозьненае ўшанаваньне памяці Алеся Гаруна з нагоды 100-годзьдзя ад нараджэньня (паэт нарадзіўся 11 сакавіка 1887 г.). Беларускім пісьменьнікам давялося правесьці цэлае змаганьне, каб юбілей гэты адзначыць. У часе юбілею прадавалася кніжка паэзіі Гаруна «Матчын дар», перавыдадзеная (факсыміль) да юбілею (першае выданьне выйшла ў 1918 г.). Да століка з кніжкай, паводля БЕЛТА, была «даўгая чарга». Кніжка выйшла 10-тысячным тыражом. Вялікі матар'ял пра А. Гаруна й юбілей зьмясьціла газ. Літаратура і Мастацтва (№ 8, 19.II).

### *ПАВЕДАМЛЕНЬНІ*

### УРАЧЫСТАСЬЦІ 1000-ГОДЗЬДЗЯ

**У Кліўленьдзе, штат Агаё, у парафіі царквы Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ 22-га травеня** сёлета будзе адзначаны разам з парафіяльным сьвятам юбілей 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі архірэйскай багаслужбай, якую адслужыць Архіепіскап Мікалай у суслужэньні духавенства. На банкеце ў гасьцініцы Голыдэй Ін у Мідлбург-Гайтс даклад прачытае праф. Том Бэрд.

**У Гайленд-Парку, Н.-Дж., у царкве Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ 5-га чэрвеня** будзе адзначаны юбілей 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі архірэйскай багаслужбай, якую адслужыць Архіепіскап Мікалай у суслужэньні духавенства. Па супольным абедзе даклад на тэму дня прачытае др. Янка Запруднік. Будзе мастацкая частка.

**У Манчэстэры ў царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ 5-га чэрвеня** сёлета будзе адзначаны юбілей 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. Сьв. Літургія будзе адслужаная Мітрапалітам Ізяславам у суслужэньні Мітр. Прат. Яна Абабуркі й Прат. Яна Пекарскага. Акадэмія й прыняцьцё адбудуецца ў прыцаркоўнай залі. Адрас царквы: Holy Mother of Zyrovicy, Chapel Rd., Rainsough, Prestwich, Manchester, M25.

### «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» № 33, 1988

У нумары: Д. Касмовіч, Беларускі Вызвольны Фронт — Зваот да беларускай эміграцыі (з нагоды 43-х угодкаў Другога Ўсеб. Кангрэсу); Ю. В-скі — З новым Годам, землякі (верш); М. Панёманскі — арт. БССР — нацыянальная Галгофа беларускага народу; І. Касяк — Расейскі дзяржаўны прыгон; інфармацыя паангельску пра 20-ю канфэрэнцыю Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі; анг. тэкст мэмарандуму Беларускага Кангрэсавага К-ту Амэрыкі да місіяў у Аб'еднаных Нацыях; нэкралёгі па К. Глінскім і Н. Мядзейку; І. Касяк — Ад мінулага нельга адмахнуцца; вершы беларускіх паэтаў БССР пра родную мову (з кнігі А. Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс»); М. К. — Ушанаваньне паэта Янкі Золака; Я. Золак — Ціхі стаў (апавяданьне); М. Кавыль — Із агню ды ў полымя (урывак з раману); Я. Юхнавец — Зь дзёньнікаў незакончаных (паэзія); І. Цупрык — «Гласность» (сцэнары скетчу); Ю. Попко — Беларусіка ў Нямеччыне; «Белбурнац» — Ліст у рэдакцыю «Б.Д.»; хроніка. Цана: 3 дал.

Адрас Рэдакцыі: "Byelorussian Thought", S. Whitehead Ave., P.O. Box 26, South River, N.J. 08882.

### *ПРА БССР ПАНЯМЕЦКУ*

Чарговы выпуск нямецкамоўнага выданьня Informationshefte, якое выдаецца ў Зах. Нямеччыне арганізацыяй Weissruthenischer Arbeitskreis (гл. «Беларус» № 332), дае агляд друку й радыёпаведамленьняў савецкае Беларусі за 1987 год. Інфармацыя (57 старонак машынапіснага друку) пададзеная ў разьдзелах: пратэсты супраць русыфікацыі; партыя й дзяржава; замежныя сувязі; нутраная палітыка; гаспадарка; культура; ахова прыроднага навакольля; быт.

### ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫЯ МАТАР'ЯЛЫ

Шчыра дзякуем за газэтныя выразкі й ксэракопіі матар'ялаў сп.сп. К. Карніловічу, К. Калошу, Я. Міхалюку, В. Мельяновічу, Яз. А., А. Суботу, Ул. Бакуновічу, Т. Кольба, А. Міцкевічу, Т. Бэрду, М. Раецкаму, Р. Занькоўскаму, Ю. Попку, Я. Мойсіку, М. Грэбеню.

**Рэдакцыя**

## СЬВ. † ПАМ. МАГІ БАРЫСІК

Зусім нечакана памерла 12 лютага 1988 г. ў 64-гадовым веку, па 35-гадовым супольным жыцьці ў найлепшай згодзе, жонка беларускага грамадзкага працаўніка сп. Пётры Барысіка. З паходжаньня валёнская Бэльгійка, Нябожчыца пакінула ў вялікім смутку мужа, замужнюю дачку й двое ўнукаў. Сп. П. Барысіку й сям'і выказваем шчырыя й глыбокія спачуваньні.

**Сябры**

## СЬВ. † ПАМ. ІВАН ЦІХАНЮК

Нарадзіўся 9 кастрычніка 1904 г. ў вёсцы Збуч, што на Гайнаўшчыне, тамжа й памёр 10 лютага 1988 году. Вечная памяць. Глыбокія спачуваньні сваяком Нябожчыка, сп-ству Сапежынскім ды іхным сем'ям выказваюць

**Сябры з парафіі Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Бел.-Ам. Жан. Згурт. у Кліўленьдзе | ам. д. 150 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| В. і З. Кіпель | 90 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| С. Антонік | 50 |
| І. Каханоўская | 50 |
| А. Я. | 50 |
| К. і М. Верабей | 40 |
| Н. Арсеньнева | 30 |
| С. Шабовіч | 30 |
| Бел.-Ам. Т-ва Маст. і Ўмельц. | 30 |
| Н. Орса | 30 |
| М. Александровіч | 25 |
| П. Пікулік | 25 |
| У. Бакуновіч | 25 |
| О. Арэхва | 25 |
| П. Зыбайла | 20 |
| В. Казлоўскі | 20 |
| М. Латушкін | 20 |
| Я. К. | 15 |
| М. Сяднёў | 15 |
| В. Гэй | 10 |
| А. Даніловіч | 3 |
| В. Тумаш | 3 |
| Усяго | 906 |

*Сабрана на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Брансьвіку:*

| | |
|---|---|
| А. і Л. Дубовік | 100 |
| У. Набагез | 100 |
| А. і Ф. Рамана | 50 |
| М. і Н. Рагуля | 40 |
| А. Ліхач | 30 |
| М. Ганько | 25 |
| Л. Корчык | 20 |
| В. і Г. Русак | 20 |
| К. і М. Верабей | 20 |
| М. і В. Заморскі | 20 |
| А. Субота | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| а. М. Страпко | 20 |
| Стаўпецкі | 20 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| Л. Шурак | 20 |
| Я. Запруднік | 20 |
| А. і Н. Сільвановіч | 15 |
| Ананімна | 15 |
| Я. Азарка | 10 |
| А. Непеін | 10 |
| П. Кажура | 10 |
| Я. Раковіч | 10 |
| А. Шукелайць | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| Ю. Андрусышына | 10 |
| а. В. Андрэюк | 10 |
| а. А. Радэнковіч | 10 |
| С. Гутырчык | 10 |
| У. Машанскі | 10 |
| А. Стрэчань | 10 |
| М. Каранеўскі | 10 |
| В. Тур | 10 |
| Ю. Азарка | 10 |
| А. Рыжы | 10 |
| Сапежынскія | 10 |
| Т. і А. Кольба | 10 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| М. Абрамчык | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| А. Ніканoвіч | 5 |
| В. Стома | 5 |
| Усего | 825 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| а. М. Брынкевіч | 50 |
| М. Чатырка | 50 |
| М. Целушэцкі | 40 |
| І. Цупрык | 30 |
| В. Стома | 30 |
| М. Мядзейка | 20 |
| Д. Дзядовіч | 20 |
| С. Гутырчык | 20 |
| А. Субота | 20 |
| А. Шастак | 20 |
| Е. Евец | 20 |
| Я. Яновіч | 15 |
| А. Балкоўскі | 15 |
| Усяго | 350 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| Р. і В. Жук-Грышкевіч | ам.д. 50 |
| Р. Беразоўскі | 25 |
| В. і М. Пашкевіч | 20 |
| Усяго | 95 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

*Праз нашага прадстаўніка сп. А. Лашука, ахвяры:*

| | |
|---|---|
| П. Асіповіч | анг.ф. 10 |
| А. Лашук | 9 |
| Я. Домінік | 7,5 |
| А. Якубовіч | 5 |
| С. Буткев | 2,5 |
| З. Стантон | 2,5 |
| Я. Сеўковіч | 2,5 |
| Я. Мазур | 2,5 |
| Падпіснoe платы | 158,5 |
| Усяго | 200 |
| у ам. валюце | 315,69 |

| | |
|---|---|
| М. Яськевіч | ам.д. 10 |
| Беларусы Манчэстэру (праз сп. В. Тура) | 50 |

**НЯМЕЧЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Б. Кіт | 100 |
| Л. Міняйла | 20 |
| Л. Ганбар | 15 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| П. Барысік | ам.д. 100 |
| Я. Ж. | 50 |

**ФРАНЦЫЯ**

| | |
|---|---|
| М. Булыга | ам.д. 16,81 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Замест кветак на магілу с.п. П. Гайдзеля:*

| | |
|---|---|
| С. і О. Нарушэвіч | 100 |
| М. Лужынскі | 50 |
| О. Качан | 20 |

Усім ахвярадаўцам, падпісчыкам, прадстаўніком вялікае прызнаньне! ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ ВАМ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА РАЗЫХОДЗІЦЦА ПА СЬВЕЦЕ Й ТРЫМАЕ НАС РАЗАМ.

**Выдавецтва «Беларус»**

BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc.,
P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432. Price per copy: $1.50, subscription $15.00 per year.

# JOYOUS AND SOLEMN OBSERVANCE

*Address by Mr. George Azarko, national president of the Byelorussian-American Youth Organization, who was MC at the 70th Anniversary of Independence Celebration in New Brunswick, N.J., on March 27, 1988.*

Today's observance is both one of joy and solemnity. Joyous because 70 years ago on March 25, 1918, the Rada of the Byelorussian National Republic (BNR) proclaimed Byelorussia's independence, after more than a century of Russian domination, by declaring that "We, the Rada of the Byelorussian National Republic, cast off from our country the last shackles of political servitude which had been imposed by the Russian Czars on our free and independent land. From now on, the Byelorussian National Republic is to be a free and independent power. The peoples of Byelorussia themselves, through their own Constituent Assembly, will decide upon the future relations of Byelorussia with other states."

Solemn because the BNR, however, was short-lived, and its government was forced to go into exile in January of 1921, when neighboring Poland and Russia, which were conducting a war on Byelorussian soil, ceased hostilities by partitioning Byelorussia in accordance with the Treaty of Riga.

A founding member of the United Nations, Byelorussia is forcibly attached to the Soviet Union, which subjects its people and culture to a deliberate policy of russification.

Today the Byelorussian National Republic in exile remains the unifying force among free Byelorussians and serves as the symbol for an independent Byelorussia, free from foreign domination.

This year's celebration is especially meaningful since it occurs in the year marking the millenium of Christianity in Byelorussia and the 150th anniversary of Kastuś Kalinoŭski's birth. Kalinoŭski died on the Russian gallows at the age of 26 for leading the Uprising of 1863 and publishing the first Byelorussian newspaper "Mužyckaja Praŭda" (The Peasants' Truth"). In addition, this year marks the quadrucentennial of the "Lithuanian Statute" (3rd Edition). Contrary to popular belief, this code of laws was written in Byelorussian, not Lithuanian.

# THE TWO GREAT ANNIVERSARIES

*Speech by Ms. Natalia Rusak at the dinner in New Brunswick, N.J., March 27, 1988, marking the 70th anniversary of Byelorussia's Independence.*

The pride of each ethnic group is based on the achievement of its past, on its heritage. We celebrate it, we parade it, we write about it, and we memorialize it in songs, poetry and traditions.

The Byelorussian tenets that are ingrained into the Byelorussian character are not a coincidence. As documented, the democratic make-up of the Byelorussian legal system goes back at least 1000 years to Polacak (Polatsak) and its famous "Viecha", and includes a milestone, not only of Byelorussian history but of the history of Eastern Europe as well—the Lithuanian Statute of 1588. It was a true Codex of Law. It was the only codification of law between that of Justinian of Rome in 500's. A.D. to that of Napoleon in the 1800's.

The latest example of Byelorussian dedication to democratic principles in the government was exhibited in the formulation of the Constituent Charters of the Byelorussian Democratic Republic (BDR) in 1918.

Today, we can only be proud of the vision and action that our great-great grandparents exhibited 70 years ago. Against the pressures of the Soviet and German occupation, the Council of the BDR proclaimed the Byelorussia's Independence and established in its three Constituent Charters the clearly democratic laws for the Country. Among those were the following:

a) Establishment of a Byelorussian Republic within the borders of the numerical majority of the Byelorussian population.

b) Participation in the government of the country based on the universal voting right without distinction of nationality, religion or sex.

c) Freedom of speech, press, assembly and strike.

d) Equal rights for all minorities and all languages.

e) An eight hour working day.

Those were the ideals, hopes and thrust. The future, however, turned out differently. By force of arms Byelorussia was divided into two parts between the USSR and Poland. The strong desire of the founders of the BDR to establish a form of government based on law and justice provokes us today to look back into the thousand year old history of Byelorussia for examples of this attitude in the past.

And certainly, we find exactly the same devotion to justice and law in the publication of the Statute of the Grand Duchy of Lithuania (GDL) 400 years ago.

The Statute was published in 1588 in Vilnia under the auspices of the Chancelor of the Grand Duchy, Leŭ Sapieha. The Statute was the final improved and expanded edition of the earlier versions of 1529 and 1566. In legal terms, the Statute is a monumental work; it served well the GDL with its complex social and ethnic structure. It was used officially until the partition of the Commonwealth of Poland and the Grand Duchy in 1795. Practically, it was used until 1840.

In addition to its role as a tool of law and justice, the Third Statute played a great political role, namely as an instrument in defense of the sovereignty of the GDL of which Byelorussia was the central part.

To refresh our memory, I should mention briefly that in 1569 the GDL entered into a political Union with the Kingdom of Poland, known as Commonwealth of Poland and Lithuania, to strengthen their position between Russia and Germany. This Union considerably limited the rights of both nations, but it left the GDL its separate government, army and treasury.

Although the Commonwealth of Poland and the GDL was a great power in the 16th and 17th centuries, the leading Byelorussian nobility had its misgivings about the close union with Poland; it realized the future dangers for the sovereignty of the Grand Duchy and resisted full consummation of the union agreements. It was Chancellor Leŭ Sapieha who, in particular, resisted the acceptance of all the provisions of the Union. Interestingly, he used the 1588 Statute to defend the sovereignty of the GDL and of its official Byelorussian language. It was largely due to the efforts of Sapieha that the Acts of Union between the two countries were not even made part of the Statute of 1588. The Statute was very specific to distinguish between the citizens of the Grand Duchy and all others, like "foreigners", "strangers" or "neighbors". It is also specific about the territory of the GDL as it differs from Poland. According to the Statute the Grand Duke of Lithuania could have been a King of Poland, but he did not have to be. Thus the Statute of 1588 essentially ignored the provisions of the Lublin Union of 1569 and remained truthful to the traditional principles of sovereignty, law and justice of the Country.

In conclusion I would like to state that analyzing the two great events in the history of Byelorussia, the 70th Anniversary of the Proclamation of the independent Byelorussian Democratic Republic and the 400th Anniversary of the publication of the Statute of Grand Duchy of Lithuania in 1588, we can notice a similar philosophy and motivation. In 1588 the concern focused on the continuation of the sovereignty endangered by Union with Poland. In 1918 it was the re-establishment of the sovereignty of Byelorussia previously lost. Both illustrate the concern of the Byelorussian people with sovereignty and justice in law.

# RESURGENCE OF NATIONALISM

*Speech by Ms. Vera Zaprudnik at the dinner in New Brunswick, N.J., March 27, 1988, marking the 70th anniversary of Byelorussia's Independence.* (Abridged for lack of space)

One should first examine the meaning of nationalism. What comprises a nation? First there is *territory*, an area that is inhabited by a common group of people. Second, there is a system of *economics* to support these people, a synergistic network of supply and demand to enable their basic existence. Third, there is *language* which enables communication of these people. Fourth and fifth are, a *psyche* and a *culture* which are shared by the population, having similar values, aspirations and a common way of expressing and appreciating these.

Of the five aspects, the focal point and foundation of a nation is the language, with respect to the fact that it is common to the nationality and more importantly that it is historically accurate, symbolizing their own heritage, and providing a link to people who've shared their ancestry. This commonality links all Byelorussians and provides a forum for their struggle for a distinct identity. With such a critical function assigned on language, this is how and where today's Byelorussians are responding to Gorbachev's policy of glasnost, openness. For the Byelorussians, defending language is their way of defending their nation and supporting nationalism.

We should be aware of the differing connotations of being labelled a nationalist. In the United States, being a nationalist denotes either a positive or neutral feeling, simply expressing interest and pride in ones ancestry. However, in the USSR, even the phrasing of being "labelled" a nationalist denotes a certain amount of risk the person accepts for pursuing what he believes in. "Nationalists" often jeopardize their safety, personal and economic, and risk ostracism by those in the community not sharing their views.

Many individuals, even with these potential risk of personal, economic and political retribution are actively pursuing their right to their heritage, the right to use the Byelorussian language freely. It was interesting for me to read that a line of defense the Soviets are using is that Byelorussian has never been forbidden.

Let us now examine the condition of this "never forbidden" Byelorussian language as presented in a letter to Mr. Gorbachev in December of 1986, by 28 concerned literary and cultural figures. They write:

"There is no continuity of teaching in Byelorussian in the public education system. Pre-school education in the native language is in a deplorably neglected state. There are no higher educational institutions, technical or vocational colleges which use Byelorussian. For several decades the teacher training colleges of the Republic have not bothered about the training of teachers to work in Byelorussian-language schools." Other points follow,

— Practically 100% of materials published in the BSSR are in Russian.

— Virtually no films are produced in Byelorussian, and out of 15 theaters in the Republic, only 3 are Byelorussian.

— Byelorussian is almost never used as a working language in official places, or in Party organizations, or in local or national government.

No official response was received. Subsequently, a second letter, this one bearing 134 signatures of a more diversified group, was sent to Secretary General Gorbachev in June 1987. This letter addressed the falsifications presented by E. Sokolov, the First Secretary of the Central Committee of the Byelorussian Communist Party at a plenary session, in response to the letter of December 1986. It addressed his misrepresentation of statistics with regard to native language, his contention that the mere existence of printed work in Byelorussian proves its freedom, never mentioning, however, that work in Byelorussian is less than 5% of all work published in the BSSR. Sokolov also portrayed developed Byelorussian-Russian bilingualism as a result of Byelorussians' free choice of language.

This second letter 1. addressed these unofficial answers to the original letter, 2. refuted these claims, 3. stated that planned measures were only superficial or cosmetic in nature, and 4. reiterated the need for decisive action to save the Byelorussian language.

This, then, is the condition of a language that is "not forbidden," to people who have the right to choose, as long as they choose to choose Russian as their language, the only choice available.

This brings to mind the American TV commercial for freedom of choice, my favorite Wendy's commercial depicting a Soviet fashion show. A woman is modelling Soviet daywear, evening wear, swimwear. She keeps coming out in the same dress. An accurate portrayal of Soviet freedom of choice.

Moladź, youth, is playing an important part in the resurgence of nationalism. On Nov. 1, 1987 there was a gathering of several "informal" associations for a public meeting in Kupala Square in Minsk. Their idea was to revive the Byelorussian tradition of Dziady, the honoring of the dead. They were reported as extremists and nationalists in the Soviet press.

A subsequent literary meeting held in December 1987 garnered a little more criticism from the Soviet press, as reported in the weekly "Litaratura i Mastactva", claiming that it was evident that the literary evening turned into another demonstration of Byelorussian patriotism. The literary evening was politicized, and what seemed to offend the Soviet reporter most was the singing of Maksim Bahdanovič's stirring poem "Pahonia" which means "in pursuit", in pursuit of enemies in defense of the native country. Pahonia is the national emblem for Biełaruś.

In support of Biełaruskaja Moładź, past, present, here, and over there, I would like to recite three verses from Bahdanovič's "Pahonia":

..................................

I would like to close with a short verse of my own, which is a message to all those, on *this* shore, that have carried the banner for freedom and have dedicated their souls to the fight for Biełaruś.

Fear not, oh stalwart soldier
That your battle is not yet done
Time has come when you can confidently
Pass the reins to your daughter and son
If you feel not ready to pass your sword
Least let us share the weight of your shield
Fear not, oh stalwart soldier
To the oppressors we will never yield
Feel at peace, as you scan your horizon
You'll see saplings struggling tall
Seedlings nourished by your sweat and
  wisdom
We won't let the freedom fight fall.